


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (1148) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 26 ЛЮТАГА 1978 г. ЦАНА 60 гр.

# НАШЫ ДАСЯГНЕННІ І НЕДАХОПЫ

Ужо мінае амаль два гады ад заканчэння прац VIII з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Знаходзімся мы на палавіне часу паміж чарговымі з'ездамі. Настала пара глянуць, як ажыццяўляюцца рашэнні, прынятыя на VIII з'ездзе. За інфармацыяй мы звярнуліся да старшыні Галоўнага праўлення БГКТ тав. М. Самоціка.

— **Таварыш старшыня, як выконваюцца рашэнні VIII з'езду нашай арганізацыі?**

— Кіраўніцтва ГП БГКТ апрацавала спецыяльны план па ажыццяўленню рашэнняў VIII з'езду, і гэты дакумент быў прыняты на адным з першых пасляз'ездаўскіх пасяджэнняў Прэзідыума. Сталай і самай масавай формай нашай культурна-асветнай дзейнасці з'яўляюцца фэстыны, яны сталі своеасаблівымі рэгіянальнымі беларускімі святамі. У мінулых гадах мы іх праводзілі пад лозунгамі „30-годдзя ПНР", „30-годдзя перамогі над фашызмам", „60-годдзя Вялікага Кастрычніка", у бягучым годзе яны будуць праходзіць пад лозунгам „60-годдзя Беларускай ССР". Вельмі добра пашыраецца распаўсюджанне і чытальніцтва нашага органа тыднёвіка „Нівы", крытыка недахопаў і адмоўных з'яваў, цікавая і надта карысная праца рэдакцыі з пісьманосцамі і грамадскімі карэспандэнтамі вельмі спрыяе папулярнасці тыднёвіка. Неабходна адзначыць, што з кожным годам павышаецца мастацкі ўзровень конкурсу „Беларуская песня", узбагачаецца яго рэпертуар новымі творамі беларускіх кампазітараў і песнямі, пачэрпнутымі з багатага беларускага музычнага фальклору Беласточчыны. Але пажадана, каб у конкурсе прымала ўдзел больш новых спевакоў. Расце таксама ўзровень конкурсу „Беларуская песня" для школьнікаў, узбагачаецца яго рэпертуар, але, на жаль, у выніку змяншэння колькасці школ з навучаннем беларускай мовы, змяншаецца і колькасць юных выканаўцаў роднай песні. Горш выглядае справа з развіццём самадзейнага тэатральнага мастацтва. Колькасць тэатральных калектываў з кожным годам змяншаецца, цяпер ужо мы нават не праводзім раённых эліміНацый, а толькі адзін цэнтральны агляд тэатральных калектываў. У мінулым годзе, напрыклад, выказала ахвоту прыняць удзел у аглядзе дзевяць калектываў, а выступіла ўсяго пяць. Значна перашкаджае ў развіцці нашай тэатральнай самадзейнасці недахоп адпаведнага рэпертуару. Члены літаратурнага аб'яднання „Белавежа", нягледзячы на заахвочанні з боку ГП БГКТ, неяк неахвотна пішуць новыя п'есы. Але ў бягучым годзе павінен наступіць карысны зрух у працы тэатральных калектываў. Трэба лічыць вельмі ўдалымі нашыя чытальніцкія конкурсы. У апошнім з іх удзельнічала

(Працяг на стар. 4)



*М. Самоцік.* *Фота М. Шаховіча.*



*Самадзейны калектыў з Ляшукоў.* *Фота В. Рудчыка.*

## НАРОДНЫЯ ТАЛЕНТЫ

# АРЛЯНСКІ Вася Цёркін

Заехаў я ў Орлю. У гміне гавару сакратару гмінкома, што жыве ў вас Яўгеній Бала...

— А, наш Цёркін... — смяецца сакратар. — О, гэта слаўны ў нас чалавек. Прыгожа спявае, а яшчэ прыгажэй чытае па памяці паэму „Васіль Цёркін". Ён вельмі ахвотна выступае на сцэне, асабліва ў дуэце з Мікалаем Лопухам. Без яго ўдзелу не абыйдзецца ніводна ўрачыстая вечарына ў нашай гміне. Часта просяць яго таксама ў Беласток.

*По дороге прифронтовой,*
*Запоясан как в строю,*
*Шел боец в шинели новой*
*Догонял свой полк стрелковый,*
*Роту первую свою...*

Цудоўныя радкі слаўнай паэмы Аляксандра Твардоўскага паплылі ў залу кавярні „Прафсаюзная", дзе адзначалася чарговая гадавіна Савецкай Арміі. Усе прысутныя заціхлі, адставілі шклянку з кавай і чаем, а ён, Яўгеній Бала, вось неяк звычайна, лёгка і проста, быццам свайму сябру, расказваў нам вершам пра суровую зіму ваенных гадоў, пра выпадковую сустрэчу салдат, пра забітага афіцэра-танкіста і пра асірацелую гармонь...

*А гармонь зовёт куда-то,*
*Далеко, легко ведёт...*
*А какой вы все ребята*
*Молодой ещё народ...*

І так без перапынку — 20-30 мінут.

Пасля канцэрта падышоў да яго савецкі афіцэр, прадстаўнік пасольства і, схапіўшы арлянскага Цёркіна ў абдымкі, заявіў:

— Шмат разоў я слухаў са сцэны гэтую паэму і сам яе неаднойчы чытаў... Але тут, у вашым выкананні, я ўбачыў, як мне здаецца, сапраўднага Васіля Цёркіна, рускага народнага героя...

Яўгеній Бала здзіўляючы, надзвычайны чалавек — па памяці можа нават і гадзіну часу чытаць паэму Аляксандра Твардоўскага „Васіль Цёркін". Без перадышкі, як бы ў кніжку глядзеў.

— У вайну, — кажа ён, — адзін савецкі афіцэр пакінуў гэты твор у майго суседа, які не ўмеў чытаць, дык той аддаў яго мне. Паэма мне так спадабалася, што я вывучыў яе напамяць.

Простая справа, праўда? Толькі якую трэба мець памяць, каб захавала яна такі працяглы расказ аб вясёлым, смелым і заслужаным байцу — Васілю Цёркіне.

— То ж гавару, што паэма мне спадабалася! — паўтарае народны мастак, быццам крыху загневаны, што людзі не могуць зразумець такой звычайнай справы: як ён змог вывучыць напамяць некалькі дзесяткаў старонак запісаных вершамі.

— Зімой 1946 года, — расказвае далей Яўгеній Бала, — нашу вёску Шпакі спаліла банда „Бурага". Згарэў і наш дом, а разам з ім — уся наша маёмасць і... скарб мой найдаражэйшы...

Горкі ўспамін душыць горла. Тое, што перажыў ён 13-гадовым хлапчуком, балючай хваляй раптам вяртаецца цяпер.

Быў зімовы вечар. Сям'я засела за стол, каб павячэраць. Раптам вясковай вуліцай праімчаліся нейкія падводы з узброенымі людзьмі. Солтыс вёскі, Сяргей Петручук, які выпадкова знаходзіўся ў іх хаце, выглянуў на вуліцу.

— Гэта, мусіць, банда, — заявіў, вярнуўшыся ў хату. Усе адклалі ложкі, застылі ў напружаным чаканні. Неўзабаве разам з рэхам стральбы ў вокнах замільгацела полымя пажару.

— Гарыць ужо мая клуня, — сцвердзіў солтыс Петручук. Маці Яўгенія яшчэ мацней прыціснула да грудзей яго малодшую сястрычку Веру. Дым ужо снаваўся па панадворку.

— Уцякайма! — скамандаваў бацька. Кінуліся ў дзверы, як стаялі, проста ад стала. Ад дзвярэй аднак пасыпаліся кулі і крыкі:

(Працяг на стар. 4)

# ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

# ПЕРШАЯ СЕСІЯ

Адбылася ў нашай гміне першая, вельмі ўрачыстая сесія выбранай гміннай рады нарадовай, на якой і мне давялося пабываць, бо ў гэтых выбарах добразычлівыя людзі даверылі мне мандат раднага.

Шчыра кажучы, не вельмі хацеў я ўзвышацца ў кандыдаты на радных. Пераканаў мяне наш гмінны сакратар партыі. Чалавек гэты яшчэ зусім малады, гадоў яму ледзь пад трыццаць будзе. З вышэйшай адукацыяй, але не ганарысты, з кожным пагаворыць, як роўны з роўным. Прыехаў ён да мяне і кажа: „Вы, Максім, завялі добрыя знаёмствы ў рэдакцыі, а газета, разумееце, калі падтрымка, а калі і па галаве... Гэтыя, што над намі, там у ваяводстве і вышэй, патрабуюць добрых прыкладаў і дрэнных... Каб вам даць матчымасць паглядзець на справы нашай гміны з вышэйшай перспектывы, каб вы часцей маглі нас, ну, пахваліць, а каго трэба (мы вам падкажам) і крытыкай у нос тыцнуць... Разумееце..."

Так і стаў я радным. Людзі пачалі на мяне неяк інакш глядзець. А можа гэта мне толькі здаецца. Але ўжо на другі дзень пасля выбараў прыбегла да маёй Палашкі суседка Хвядося. Пагаварыла пра тое, пра сёе і, адыходзячы з хаты, запытала: „А можа вам яйкі патрэбныя? У мяне куры пачалі ўжо нясціся, а ў вас столькі ўнукаў у горадзе... Неяк там палічымся. Вы мне, а я вам... разумееце..."

Толькі зачыніліся дзверы за Хвядосяй, а тут прэ наш вясковы майстар па гульнях у дурня, сябар майго жыцця, вядомы вам Сямён. Прывітаўся і без далейшай дыскусіі ставіць на стол бутэльку „чыстай".

— Што ты, здурэў?! — звяртаюся я да яго. — То ж сёння звычайны дзень! Да працы трэба.

— Праца не заяц, — кажа ён. — А я прыйшоў павіншаваць цябе, пажадаць поспехаў..., ну, сам ведаеш... Цяпер ты ў нас не проста Максім, але Максім-радны! Вось што! Радавацца трэба, святкаваць!

— Што ж было рабіць? Пайшлі на патэльню Хвядосіны яйкі і неўзабаве мы разам з Сямёнам забылі, што трэба кароў паіць і ўсю іншую жывіну дагледаць. І тады ён кажа:

— Ты, Максіме, цяпер многае патрапіш аформіць. Ну дык па-сяброўску... рука руку мые і чысценькай астаецца... Ведаеш, мой сын, гэты Мікалай, што ў ПОМе механікам робіць, цяпер дзіцяці спадзяецца...

— Хто, ён? Якім цудам?

— Вядома, што не ён, а яго жонка...

— Дык што, я нібы маю памагчы ёй радзіць? Пашукай сабе іншага акушэра. У мяне сваіх турбот з родамі ўдосталь. Вось зараз апаросіцца другая свінаматка. Дзень і ноч трэба за ёю наглядаць, каб не паз'ядала сваіх парасятак.

— Але ж ты, Максіме, ганарысты стаў! Не спадзяваўся я гэтага! Нават паслухаць чалавека не хочаш! Я ж не ў акушэры цябе бяру, а пра кватэру гавару. ПОМ новы жылы будынак толькі што аддаў у карыстанне, а мой сын у чужых людзей кватэру наймае, паўтары тысячы злотых кожны месяц плоціць... Каб ты закінуў слаўцо дзе трэба... Разумеецца, кошты тут не прычым, не пашкадую...

Прыходзілі яшчэ іншыя мае аднавяскоўцы і да сябе запрашалі, а нават з суседніх вёсак людзі прыязджалі. Завёў я спецыяльны сшытак, каб пазапісваць для памяці ўсе іх просьбы і справы. З гэтым і адправіўся на першую сесію нашай рады. Палашка падрыхтавала мне святочны касцюм і загадала яшчэ падчапіць гальштук.

Сабраліся мы ў святліцы гміннага цэнтра культуры. На сталах стаялі бутэлькі з аранжадай, а на сцэне ўладкаваўся прэзідыум. Сесію адкрыў старэнькі чалавек з медалямі на грудзях. Затым выступіў начальнік гміны з доў-

(Працяг на стар. 4)

 

## Аркадзь Куляшоў



Беларуская літаратура панесла вялікую страту — 4 лютага 1978 года памёр Аркадзь Куляшоў, паэт, чыя творчасць і лёс былі непарыўна звязаны з лёсам Радзімы, усяго савецкага народа. Паўвекавы яго творчы шлях увасобіў усё галоўнае, найбольш істотнае ў грамадскім і духоўным развіцці Савецкай краіны.

Нарадзіўся Аркадзь Куляшоў 6 лютага 1914 года ў вёсцы Самацеевічы Магілёўскай вобласці ў сям'і школьнага настаўніка. Вучоба ў Мінскім педагагічным інстытуце, праца ў газеце „Чырвоная змена", на Беларускім радыё былі школай яго жыццёвага і грамадзянскага станаўлення. Разам з усім народам паэт прайшоў праз суровыя выпрабаванні Вялікай Айчыннай вайны, працуючы ў армейскім і партызанскім друку. У пасляваенны час паэт працаваў галоўным рэдактарам газеты „Літаратура і мастацтва", шмат сіл і натхнення аддаў развіццю беларускага кіно як галоўны рэдактар студыі „Беларусьфільм" і аўтар сцэнарыяў фільмаў, што сталі значнай вяхой у развіцці нацыянальнага кінамастацтва.

Ужо першыя кнігі Аркадзя Куляшова, якія выйшлі ў передваенныя гады, атрымалі шырокі грамадскі рэзананс. Але з асаблівай сілай і паўнатой талент паэта праявіўся ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Яго ваенная лірыка, паэма „Сцяг брыгады", якія ўслаўлялі неўміручы подзвіг народа ў барацьбе з фашызмам, сталі выдатнай старонкай савецкай паэзіі.

Грамадзянская адухоўленасць, філасофская глыбіня і шырокі сацыяльна-тэматычны дыяпазон, высокія ідэйна-мастацкія якасці характарызуюць творчасць паэта ў пасляваенны час. Паэтычныя зборнікі Аркадзя Куляшова „Новая кніга", „Сасна і бяроза", „Хуткасць", паэмы „Грозная пушча", „Далёка да акіяна", „Цунамі", „Варшаўскі шлях", „Хамуціус" сталі падзеямі ў беларускай літаратуры, у іх знайшлі адлюстраванне этапныя з'явы ў гісторыі народа і сучасным жыцці сацыялістычнага грамадства. Творы Аркадзя Куляшова перакладаліся на мовы народаў СССР і за мяжой.

Вялікі ўклад зрабіў Аркадзь Куляшоў і ў справу мастацкага перакладу, у развіццё і пашырэнне творчых сувязяў з братнімі літаратурамі. Бліскучым майстэрствам вызначаюцца яго пераклады „Яўгена Анегіна" А. Пушкіна, лірыкі М. Лермантава, „Энеіды" І. Катлярэўскага, вершаў У. Маякоўскага, С. Ясеніна і многіх сучасных паэтаў братніх рэспублік.

Аркадзь Куляшоў узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнам Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.

Сваю літаратурную творчасць Аркадзь Куляшоў паспяхова спалучаў з актыўнай грамадскай дзейнасцю. Ён з'яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, быў членам праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і БССР, старшынёй Рэспубліканскага камітэта абароны міру, членам рэдкалегій часопісаў „Новый мир", „Полымя".

## ДЛЯ ДАБРА ГОРАДА І ВЁСКІ

Ад **2 па 12 сакавіка** бягучага года будзе праходзіць у Беластоку **Дэкада культуры вёскі.** У сувязі з гэтым мы звярнуліся да ініцыятара гэтага цікавага мерапрыемства **Зыгмунта Цясельскага** — кіраўніка аддзела культуры і мастацтва Гарадскога ўпраўлення ў Беластоку — з некалькімі пытаннямі.

**„Ніва":** Як вы ацэньваеце мінулагоднюю Дэкаду культуры вёскі?

**З. Цясельскі:** Я перакана्ны, што гэта была ўдалая рэч. Пачаўся даволі шырокі рух у культурным жыцці на вёсках, абудзілася шэраг гмінаў, дагэтуль мёртвых у справах культуры, наладзіліся новыя каштоўныя сувязі рабочых з сялянамі. Рабочыя калектывы ўзялі пад сваю апеку справы культуры ў сяле, стварылі магчымасці вясковай мастацкай самадзейнасці паказаць свае дасягненні перад гледачамі з горада. А гэта выклікала ў рабочым асяроддзі зрух: „Мы таксама не хочам быць горшымі!" І ўсё гэта вельмі спрые ажыўленню культурнай дзейнасці на Беласточчыне.

**„Ніва":** Але дэкада закончылася і ўсё заціхла?

**З. Цясельскі:** О, не! Якраз дэкада запачаткавала вельмі актыўны працэс набліжэння вёскі да горада, папаўнення недахопаў культурных каштоўнасцей у вёсцы, супольныя ініцыятывы. Варта прыгадаць, што на працягу тых 10 дзён у Беластоку адбылося звыш 80 канцэртаў, спектакляў, выставак, сустрэч і іншых мерапрыемстваў, удзельнікамі якіх былі рабочыя і сяляне. Паўсталі трывалыя і вельмі плённыя сувязі, напрыклад: Прадпрыемства санітарнага абсталявання прыйшло з дапамогай пры пабудове гміннага цэнтра здароўя і адаптацыі старадаўняга будынка на гмінны асяродак культуры ў Туросні Касцельнай, Прадпрыемства прамысловага абсталявання супрацоўнічае з гмінай Кузніца Беластоцкая пры пабудове гміннага парку спорту і адпачынку на рацэ Ласоснай, спулдзельня „Вспулпраца" дапамагала сялянам Заблудаўскай гміны ў часе жніва. Цікава развіваецца супрацоўніцтва ў галіне культуры паміж гмінай Боцькі і Беластоцкім энергетычным прадпрыемствам. Такіх прыкладаў можна прывесці значна больш.

**„Ніва":** А як прадстаўляецца падрыхтоўка да дэкады ў бягучым годзе?

**З. Цясельскі:** У 1978 годзе дэкада выразна разраслася ўглыб і ўшыр. Як і ў мінулым годзе, ініцыятарам і арганізатарам яе з'яўляецца аддзел культуры і мастацтва Гарадскога ўпраўлення, але ўсё мерапрыемства набыло агульнаваяводскі характар і ў яго правядзенне ўключыліся аддзел культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення і Ваяводская рада прафесіянальных саюзаў. Удзельнічаюць у ажыццяўленні дэкады ўсе ваяводскія грамадскія і маладзёжныя арганізацыі і ўсе большыя прадпрыемствы горада. У часе дэкады адбудуцца тры знамянальныя сустрэчы: перш за ўсё сустрэнуцца перадавікі працы з прадпрыемстваў з перадавымі сялянамі, затым спаткаюцца маладзёжныя актывісты з фабрык і прадпрыемстваў з вясковым маладзёжным актывам, а таксама адбудзецца сустрэча актывістаў культурнай дзейнасці ў гмінах і на прадпрыемствах. А ўся дэкада будзе фінальным этапам і падсумаваннем аб'яўленага паўтара года таму назад Ваяводскім упраўленнем конкурсу на найбольш актыўныя ў культурнай дзейнасці гміны і вёскі. Спадзяемся, што гміны пакажуць у Беластоку значна больш багаты і разнастайны рэпертуар сваёй мастацкай самадзейнасці і на польскай і на беларускай мовах. Для ўсіх нас асабліва важна, каб паказваць наш рэгіён ва ўсім яго багацці і разнастайнасці.

**„Ніва":** А што сялянам падрыхтаваў Беласток?

**З. Цясельскі:** Вельмі багаты выбар самых разнастайных культурных мерапрыемстваў. У Драматычным тэатры на вялікай сцэне будзе паказана п'еса Страцева „Авечка", а на малой сустрэнуцца жанчыны з калектыву „Калаўроткі" з Монькаў з вядомым артыстам Войцехам Сямёнам. Лялечны тэатр пакажа аж чатыры п'есы




*З. Цясельскі.*

„Гадзіннік з зязюлькай" Пракоф'евай, „Вялікі Іван" Абразцова і Прэабражэнскага, „Смык і Квік" Каша і „Духі старога млына" Навацкага і Фрыдмана. Беластоцкая філармонія падрыхтавала спецыяльныя канцэрты для моладзі і для дарослых слухачоў, выступіць славуты „Віляноўскі квартэт" і адбудзецца рэчыталь М. Р. Вачыні. Ваяводскае прадпрыемства мастацкіх мерапрыемстваў арганізуе выступленні беластоцкага спевака Я. Ляскоўскага з калектывам „Карэта", вядомай капелы з Чарнякова і ўдзел Вазьняцкай у канцэрце „За вашу працу". У Музеі рэвалюцыйнага руху будзе адкрыта выстаўка „Ф. Дзяржынскі ў польскім мастацтве" і „З мінулага беластоцкай тэкстыльнай прамысловасці", у Акруговым музеі — выстаўка „Польскія народныя музычныя інструменты" і пры ёй прадбачваюцца выступленні народных інструментальных калектываў, а ў „Арсенале" — выстаўка разьбы беластоцкага мастака А. Карнага. У Музеі Войска Польскага адбудзецца спатканне народных ткачых з гміны Янаў на выстаўцы „Салдат у народным мастацтве", а таксама можна будзе паглядзець выстаўку „Традыцыі і дзень сённяшні ваеннага флоту". У будынку Ваяводскага ўпраўлення можна будзе наведаць спецыяльныя выстаўкі „Дасягненні беластоцкай вёскі ў галіне культуры" і „Фаўна Беласточчыны ў фатаграфіі Пухальскага". Цікавыя выстаўкі і сустрэчы праводзяць таксама Бюро мастацкіх выстваваk, Ваяводская бібліятэка і іншыя ўстановы і арганізацыі. Словам, будзе што паслухаць і што паглядзець. Асабліва на фінальным канцэрце вясковых калектываў, які арганізуе Ваяводскі дом культуры. А на заканчэнне дэкады пасля падсумавання яе вынікаў і раздачы прызнаных узнагародаў для пераможцаў адбудзецца ў Беластоцкай філармоніі ўрачысты канцэрт.

**„Ніва":** Якія вашыя асабістыя пажаданні для ўдзельнікаў сёлетняй дэкады?

**З. Цясельскі:** Каб у ёй прынялі ўдзел усе гміны, гэта значыць і тыя восем, якія не ўдзельнічалі ў мінулым годзе, і каб паміж нашым горадам і вёскай яшчэ больш пашырыліся і ўмацаваліся плённыя сяброўскія сувязі для дабра ўсяго нашага грамадства.

**„Ніва":** Дзякую за размову.

**Гутарыў Мікалай Гайдук**
Фота М. Гайдука

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ.

## БАРОДАЎКІ

Навуковая медыцына адносіцца да іх як да зацвярдзелых скурных гузачак. Дзе знаходзяцца крыніцы распаўсюджвання гэтай хваробы, акрэсліць цяжка, адно толькі вядома, што лічылі яе людзі хваробай заразлівай, якая лёгка пераносіцца праз непасрэднае сутыкненне з хворым, ці за пасрэдствам нейкіх прадметаў. Адгэтуль і сходнасць у спосабе лячэння — апаясванне, завязванне, акручванне, саскробванне ці выпальванне.

Яшчэ да сёння на Беласточчыне вядома шмат спосабаў лячэння барадавак. Трэба аднак сказаць, што будзе тут вялікая сходнасць са спосабамі, бытуючымі ў другіх частках Польшчы. Параўноўванне іх прыводзіць да вываду, што лячэнне барадавак моцна ачысцілася ад магічнасці. Засталіся толькі рэшткі формул, тое, што было ядром. Часта да барадавак адносяцца ўжо гумарыстычна, таму, што не з'яўляюцца яны пагрозай для чалавечага арганізму.

Найбольш распаўсюджаным з'яўляецца завязванне барадавак ваўнянай ніткай, якая на працягу некалькіх дзён іх падатне. Зрэшты, воўна ў народным лячэнні шырока вядомая па сваіх дапаможніцкіх уласцівасцях. Выкарыстоўвалі таксама і валасы (пераважна ў ваколіцах Нарвы і часткова Бельска), толькі трэба было завязваць „наодлів". Аб доўгім бытаванні гэтага спосабу гаворыць тое, што выкарыстоўваліся таксама матэрыялы штучнай вытворчасці. Гэта яшчэ раз паказвае на тое, якую істотную ролю адыгрывала ў народным лячэнні вера.

Іншым спосабам з'яўляецца абвязванне кожнай барадаўкі паасобку. Бралі нітку, абвязвалі барадаўку, і на нітцы рабілі вузел. Таксама і з наступнымі. Потым гэтую нітку з вузламі хавалі пад камень і нельга было туды заглядаць. Барадаўкі прападалі тады, калі згніла нітка. Гэтак лячылі ў Супраслі і яго ваколіцы.

Яшчэ па сённяшні дзень у Крыніцкіх, што каля Заблудава, бытуюць такія спосабы, як сціранне асёлкаю або выціранне нейкім матэрыялам. У паспяховасць выцірання можна было верыць, калі рабілі гэта пры дапамозе стужкі або старой кашулі, якую потым выкідалі за сябе на расстайных дарогах. Захавалася тут старая формула — перайманне хваробы мёртвымі прадметамі.

Барадаўкі, таксама як іншыя хваробы, загаворвалі. Рабіла гэта знахарка. Вяртаючыся ад яе, трэба было знайсці нейкую косць і закапаць пад кустом. Барадаўкі як бы замыкаліся ў гэтай косці і пераносіліся з ёй у зямлю. Закопванне — гэта спосаб не новы. Выступаў ён ужо і пры іншых хваробах, аб якіх мы пісалі раней.

Найбольш магічным і цікавым спосабам з'яўляецца выціранне ўнутранасцямі з забітай курыцы. Пасля гэтага барадаўкі вельмі хутка знікалі. Спосаб гэты вельмі цікавы, бо, магчыма, адгэтуль і народная назва — кужайкі або курыныя сракі. Магчыма, што гэты спосаб лячэння з'яўляецца вяртаннем барадавак гэтай птушцы, часткай якой, згодна з назвай, яны з'яўляюцца. Да гэтага спосабу вельмі часта звяртаюцца ў ваколіцах Заблудава і Міхалова. Падобным з'яўляецца выціранне барадавак злоўленай мышшу, што яшчэ некалькі год таму назад бытавала ў ваколіцы Сакоў на Бельшчыне. Асабліва пануючай была яе кроў.

Барадавак можна было пазбыцца таксама пры пячэнні хлеба, калі выгортвалі попел. Трэба было паклікаць хворага, толькі каб той не ведаў чаго, і стукаць яго па руках (найчасцей барадаўкі сядалі на руках), гаворачы: „Ідзіце, скуль прыйшлі". Гэтак лячылі ў ваколіцах Суража.

Іншы спосаб запісалі ў Галіцкіх. Несумненна, стары, бо інфарматарка, калі падавала формулу, успамінала „конных салдат", услед за якімі трэба было крычаць наступныя словы:

*„Двух на коню едзе,*
*Вэзьце бродавкі тшэце".*

**(Працяг на стар. 5)**



 

## TROPICALE THAITHI GRANDA BANDA



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:** Тамара Кананюк, Галіна Монах і Крыся Граматовіч з Васількова.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне, пішу я да цябе першы раз і прашу цябе, напішы, што абазначаюць мае сны. А сніліся мне падрад два неспакойныя сны.

Сон першы. Сніцца мне, што я з сяброўкай іду ў краму ў іншую вёску. Па дарозе мы спатыкаем майго хлопца з яго сябрамі. Яны пачынаюць нас лавіць. Сяброўка мая паспела ўцячы, а мяне яны злавілі і звязалі мае ногі дротам. Калі я так ляжала, дрот пачаў мне пячы ў ногі і я пачала крычаць. Сябры майго хлопца пачалі з мяне смяяцца, а хлопец мой стаяў і глядзеў на мяне. Я пачала аслабаняцца ад дроту, а ён памог мне ўстаць. Пасля таго правёў мяне ў вёску.

Сон другі. Быццам мы з тою самаю сяброўкай едзем на конях. Мы выехалі з вёскі і пачалі праязджаць праз рэчку. Сяброўка мая праехала праз рэчку, а я з каня пачала падаць у ваду. Мой конь быў рыжы, а вада спачатку была цёмная, але калі я ўжо набліжалася да берагу, яна пасвятлела. Я з каня звальвалася некалькі разоў у ваду, але ўсё мне ўдавалася ізноў сесці на яго, пакуль не выехала з рэчкі на бераг. На гэтым я прачнулася.

Аля

**Аля,** не хачу цябе пужаць, але сцеражыся хлопцаў. Твае сны сведчаць аб тым, што будуць у цябе з-за іх нейкія клопаты. Доказам гэтага з'яўляюцца ногі, звязаныя дротам, а таксама пераход праз рэчку. Ты з гэтых клопатаў выбавішся, бо ў першым сне аслабаніцца ад дроту дапамог табе твой хлапец, а ў другім сне табе ўвесь час удавалася сесці вярхом на каня, хаця ты і звальвалася з яго. Лепш, аднак, каб ты пільнавалася і была асцярожная ў наладжванні новых знаёмстваў.

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: С. ехаў уначы матацыклам вясковай дарогай. У той час Е. ехаў фурманкай з сенам, а пры возе не меў фанара. С., едучы са скорасцю каля 60 км у гадзіну, не заўважыў фурманкі, наехаў на яе, зваліўся з матацыкла і зламаў нагу. Пасля лячэння ён прызнаны інвалідам II групы. За час хваробы ЗУС выплачваў яму дапамогу, а ПЗУ выплаціў кампенсацыю — 40000 зл. ЗУС не прызнаў яму пенсіі. Ці можа ён патрабаваць ад уласніка фурманкі Е. кампенсацыі, а калі так, дык якой?

АДКАЗ: С. можа патрабаваць ад Е. кампенсацыі страты, якую ён панёс з-за няшчаснага выпадку. На пакрыццё шкоды трэба залічыць усё тое, што ён атрымаў ад ЗУС і ПЗУ, якія з свайго боку маюць права дабівацца ад таго, хто выклікаў выпадак, звароту выплачаных імі пакрыўджанаму грошай. Аднак можна лічыцца з тым, што матацыкліст таксама прычыніўся да паўстання выпадку. Ён, беручы пад увагу, што гэта была ноч, а ехаў вясковай дарогай, павінен быў захоўваць належную асцярожнасць. Таму суд, ацаніўшы, у якой ступені С. прычыніўся да выпадку, адпаведна знізіць належную кампенсацыю. У нашым прыкладзе можна лічыць толькі на прысуджэнне пенсіі, бо ў асноўным атрыманая кампенсацыя дастатковая, хіба што С. дакажа, што страты яго значна большыя.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, я замужняя, маю трохгадовую дачушку. Мужа знала яшчэ з дзіцячых год, бо жылі мы на адной вуліцы. Хлопец ён быў нядрэнны і, выходзячы за яго замуж, ніколі не падумала, што стане ён п'яніцай. Спачатку муж мой працаваў, я выхоўвала дзіця і жылі мы ў маіх бацькоў. Не пераліваласі, як кажуць, але нястач не цярпелі, бо і адны і другія бацькі яшчэ нам памагалі. Але знайшліся сябры, якія намовілі мужа, каб паехаць у другі горад, там можна добра зарабіць. І, набраўшы ахвоты, муж вырашыў паехаць з імі. Падзараблю, казаў, грошы патрэбныя, бо кватэру хутка мелі мы атрымаць. Але не пайшло гэта на карысць. Муж прыязджаў спачатку дадому часта, бо гэта недалёка, а пасля ўжо радзей. Ды, чаго калісьці не здаралася, часта пад хмяльком. Я сварылася на яго, але ён тлумачыўся, што часамі і трэба выпіць. Урэшце паехала я да яго. Хацела паглядзець, як мой муж там сябе вядзе. Жыў ён з сябрамі ў інтэрнаце для працаўнікоў. Мужа я не застала, хоць было ўжо позна. Калі вярнуўся з тымі ж калегамі, я моцна пасварылася з ім і катэгарычна сказала, каб пакінуў там работу і вярнуўся на ранейшую ў свой горад. Прыехаў. Але і тут частавата пахмяляецца. У нас з-за таго і сваркі. Што рабіць, парай, Сэрцайка!

Лена з С.

Лена! Найважнейшае, што вярнула ты мужа дамоў. Велымі некарысна, калі малады чалавек адлучаецца ад сям'і. Тады знаходзяцца сябры, гарэлка і вось такі вынік. Ён малады, калі яму гэта папусціць, дык уцягнецца і тады ўжо будзе горш. Каб адвярнуць яго ўвагу ад гарэлкі, знайдзі час пайсці з ім у кіно, на шпацыр, на вечарыну, зацікавіць яго карыснымі справамі.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў

# МУЧНЫЯ СТРАВЫ

### ФРАНЦУЗСКІЯ КЛЁЦКІ

На 2 шклянкі мукі патрэбна 150 г. масла (або маргарыну), 4 яечкі, крыху солі.

Расцерці масла, дадаючы жаўткі па адным. Збіць моцна пену з бялкоў і дадаць яе да масла, усыпаючы адначасова муку і лёгка мяшаючы. Дадаць соль. Лыжку замачваць у кіпень і класці ёю цеста ў кіпячую, пасоленую ваду. Варыць клёцкі, пакуль яны не выплывуць, 3 мінуты. Падаваць да розных „чыстых" супоў і булёнаў.

### ЧЭШСКІЯ КЛЁЦКІ

На 2 шклянкі мукі патрэбна 20 г дражджэй, 1 шклянка цёплага малака, 2 яечкі, 2 чэрствыя булкі, 250 г. капчонай сырой грудзінкі, соль, крыху сцертага на тарцы мускатнага арэха.

Муку высыпаць у міску, дадаць разведзеныя цёплым малаком і добра вырасшыя дрожджы, убіць яечкі, дадаць соль і мускатны арэх, а таксама столькі малака, каб цеста не было занадта густое. Пакінуць у цёплым месцы, каб яно падрасло. У той час крыху падсмажыць даволі дробна нарэзаную грудзінку, дадаць таксама нарэзаныя булкі, хвіліну смажыць гэта разам. Усё з патэльні дадаць да вырасшага цеста, яшчэ раз добра размяшаць і пакінуць у цяпле, каб падрасло другі раз. Рабіць пасля даволі вялікія шарыкі, мачаць іх у муку, класці ў пасолены кіпень і варыць пад крышкай на вельмі слабым агні мінут 7-8. Падаваць адразу ж, паліваючы іх маслам, перасмажаным з молатымі сухарамі.

### МАКАРОН ПА-ІТАЛЬЯНСКУ

Спачатку падрыхтоўваем макарон. На 2,5 шклянкі мукі трэба ўзяць 3 жаўткі, 1 цэлае яйцо, крыху солі, чайную лыжачку добрага алею. На дошку высыпаць муку, у ямку ўліць жаўткі і цэлае яйцо, дадаць соль і алей, замясіць даволі цвёрдае цеста, даліваючы колькі трэба вады. Раскатаць цеста на вельмі тонкія бліны і пакінуць на паўтадзіны, каб падсохла. Пасля бліны скруціць, крыху пасыпаючы зверху мукою, палажыць на канец дошкі і вострым нажом нарэзаць як найтанчэй. Рассыпаць макарон па цэлай дошцы, каб не зляпіўся. Укінуць яго ў пасолены кіпень і ад часу, калі выплыве наверх, варыць яшчэ 3 мінуты. Адцадзіць на сіце, пераліваючы халоднай вадой.

Для макарону па-італьянску трэба на палову пададзенай вышэй порцыі макарону ўзяць 300 г жоўтага сыра, 250 г каўбасы, 250 г пячурыц, 250 г цыбулі, лыжку тлушчу, соль, перац, змеленую папрыку, 2 яечкі, пасечаную зеляніну.

Жараадпорны посуд змазаць тлушчам і пасыпаць молатымі сухарамі. Гарачы, адцэджаны макарон вымяшаць з паловай сцёртага на бурачанай тарцы сыра, палажыць роўным пластом у посуд. Пячурыцы падсмажыць, дадаць нарэзаную ў скрылёчкі цыбулю, прапушчаную праз мясарубку каўбасу і ўсыпаць туды ж усе прыправы. Гэтую масу старанна размяшаць і палажыць роўным пластом на макарон. Зверху пасыпаць цёртым сырам, заліць збітымі яечкамі, пасыпаць зелянінай і папрыкай. Уставіць на 20 мінут у гарачую духоўку.

**Гаспадыня**






ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Шчасце трэба выпакутаваць! Каму належыць гэты сакраментальны выраз, Лена не ведала. Але праз гадзіну яна піла ўжо гарачы чай за сталом у цесным пакоі мамінай сяброўкі, а тая, прысеўшы насупраць, вохкала і ўздыхала, слухаючы расказ аб тым, якія няшчасці давялі да лагера маленькую дзяўчынку, якую яшчэ зусім нядаўна яна насіла на руках! Гісторыя аб тым, што пасля вымушанай эвакуацыі з Марыупаля Лена вырашыла вярнуцца ў Адэсу, не выклікала ў яе ніякіх сумненняў. Куды ж яшчэ падзецца беднай дзяўчыны? Адэса яе родны горад, і жаданне вярнуцца дадому зусім натуральнае. Што датычыць украдзеных дакументаў, то зараз столькі развялося жулікаў — усяго можна чакаць!

Перабраўшы ў памяці ўсіх знаёмых, яна спыніла выбар на былым бухгалтары, які зараз стаў чыноўнікам пры губернатары.

— Ён дапаможа! — сказала цётка Маня. — У яго самога сын у Чырвонай Арміі. Ён гэта ўтойвае, але ж я ведаю!

А далей усё было як у сне. У вызначаны час ля помніка Дзюку Лена сустрэла немаладога чалавека з сівымі скронямі, у накрухмаленай сарочцы і шэрым кацялку.

Губернатарскі чыноўнік спяшаўся на нейкае пасяджэнне. Ён быў падрыхтаваны да таго, што ад яго патрабуецца. І адразу павёў яе да натарыуса.

Праз паўгадзіны Лена ўжо трымала ў руках паперу з гербам, подпісамі і пячаткамі. У дакуменце, напісаным круглым, выразным бухгалтарскім почыркам, пацвярджалася, што яна карэнная адэсітка, а галоўнае, губернатарскі чыноўнік ручаўся за яе лаяльнасць у адносінах да ўлад.

Але дзе ўзяць грошы, каб расплаціцца з пісарам? Тыя, што ў іх з сабой былі, даўно адабраны. Цётцы Мані самой ледзь хапае сродкаў, каб так-сяк пражыць.

Тэрмін водпуску заканчваўся, і Лена вырашыла не рызыкаваць. Пісар атрымаў ва ўзнагароду двое наручных гадзіннікаў — адзінае іх багацце. Ён не быў фармалістам і, зразумеўшы, што больш з іх не ўзяць, выпісаў адпускныя дакументы для абедзвюх.

Цётка Маня зноў была на вышыні. Яна дала ім прытулак і энергічна ўзялася за клопаты. Цяпер іх трэба было прапісаць. Сувязі яе здаваліся бязмежнымі. Яна пазнаёміла дзяўчат з намеснікам начальніка раённай жандармерыі Крыцуленкам, і яны тры дні, не разгінаючы спіны, прыбіралі яго няўтульную халасцяцкую кватэру, мылі і прасавалі.

Бачачы, як прыемна мяняецца яго логава, да якога даўно не дакраналася жаночая рука, Крыцуленка, тоўсты старэючы чалавек са склератычным румянцам на шчоках, не застаўся ў даўгу. Паслужлівыя дзяўчаты, якія з такой ахвотай узяліся аблегчыць яго жыццё, атрымалі прапіску ў Адэсе.

А яшчэ праз некалькі дзён яны ўжо сталі ўладальніцамі ўласнага пакоя ў трынаццатай кватэры дома нумар восем па Граданачальніцкай вуліцы.

А хутка і рацыя ўжо ляжала ў кошыку пад старым жалезным ложкам. Але на гэта было патрачана і шмат сіл, і шмат так патрэбных ім грошай...

Раздзел пяты

### „ДЗІНА ПРАСІЛА ВЯРНУЦЬ НЯМЕЦКІ СЛОЎНІК"

Дзіўныя адэскія двары! Яны ніяк не адпавядаюць еўрапейскай строгасці фасадаў. Але менавіта з двароў і пачынаецца сапраўдная Адэса. Тэрасы, абвітыя дзікім вінаградам, балконы, стоячы на якіх гучна перагаворваюцца жанчыны. Тут абмяркоўваюцца ўсе справы, і кожны новы чалавек адразу выклікае цікавыя позіркі.

Лена адчувала сябе шчаслівай, калі, увайшоўшы ў двор, убачыла, што тэрасы пустыя. Кватэру пад нумарам дваццаць шэсць адшукала на другім паверсе і нягучна пастукала. У акне побач з дзвярыма паднялася фіранка.

— Хто там? — пачуўся глухі голас.

— Я да Валі.

Старая, якая адчыніла дзверы, здавалася ўсхваляванай.

— Валі няма дома, — сказала старая, паспешліва зачыняючы дзверы. — Яна на рабоце.

— Калі прыйдзе?

Старая адышла да стала, насцярожаным рухам папраўіла акуляры.

— А вы хто? — спытала яна. — З якой справай?

— Мяне завуць Шура!

# ТРЫБУНА чытачоў

## Патрэбна крама!

Варта, каб у вёсцы Чэхі Арлянскія была свая крама, бо клуб „Рух“, які тут да нядаўна існаваў, ужо цалкам разляцеўся. Цяпер чэхаўцам за дробяззю нават трэба некалькі кіламетраў ехаць у Дубічы Царкоўныя.

Некалькі гадоў таму была ў вёсцы крама, і невядома, чаму бацькі кляшчэлеўскага ГС-у рашылі яе закрыць..

**М. Панфілюк**

## Пачатак цяжкі

Суета Вацлаў з Трасцянога-Новага ў гміне Шудзялава рашыў механізаваць сваю гаспадарку, а потым заняцца спецыялізацыяй. Узяў у кааператыўным банку пазыку і купіў трактар, а потым усе патрэбныя ў сельскай гаспадарцы машыны.

Калі ўжо сваю зямельку так абрабіў машынамі і дабіўся добрага ўраджаю, тады перайшоў на спецыялізацыю — гадоўлю малочных і мясных кароў.

На пачатак у яго 12 галоў быдла, а свіней поўны хлеў. Праўда, пачатак цяжкі, бо гаспадар мае ў банку 700 тысяч пазыкі. Але не падае духам. Сваё стада ён будзе штогод павялічваць і разлічыцца з даўгамі. Будзе яму лепш, бо ўжо дзяцей пагадаваў, ды і жонка ў яго працавітая.

**Гіль**




### СЯБРАМ-КАРЭСПАНДЭНТАМ

*Хто ж не чуецца шчаслівым*
*З нас — карэспандэнтаў „Нівы“*
*Быць на з'ездзе гадавым!*
*Варта стаць перадавым!*
*Хто б не быў ты, — Гай, ці Віт,*
*Ты праўдзівы барацьбіт,*
*Чалавечнасці салдат*
*За мір у свеце й новы лад.*
*Служыш людскасці ўзарова,*
*Бездакорна, ганарова,*
*Хоць не раз цярпіш дакор*
*Толькі тым, што ты селькор.*
*Ты, што пляміш ўсе злачынствы,*
*Недарэчнасць людску, свінствы,*
*Што стаіш за праўду-матку,*
*Церпіш часам крыўду, братку.*
*Але ўсё то малазначна,*
*Грунт кляйміці зло удачна,*
*Заўжды аптымістам быць,*
*Над усё свой труд любіць,*
*Пра свой гонар й працу дбаць,*
*ў таварыстве жарты знаць,*
*Гумар меці назаусёды,*
*Й чарку лыкнуць ля нагоды*
*За дружбу, за ўз'яднанне,*
*Канкурсовае старанне.*
*Паздраўляю, браткі, вас!*
*Ваш калега —*

**Дзядзька Квас**

— Шура? — перапытала старая. — Не ведаю ў Валі такой знаёмай.

— Яна па-ранейшаму працуе на чыгунцы? — спытала Лена. Гэта адзінае, што яна ведала пра Валю.

— Так, на таварнай! — сказала старая. — Ну і ідзіце да яе туды.

Як толькі Лена выйшла, за яе спіной грымнуў крук.

Дома вырашылі: вечарам не рызыкаваць, а адправіцца да дома Валі раніцай, да таго, як яна пойдзе на работу, і пачакаць каля варот. Падысці нечакана.

Без чвэрці сем Лена ўжо стаяла непадалёк ад варот, стараючыся, каб яе не было бачна з глыбіні двара.

Пачулася хуткае цоканне абцасаў, і з варот выйшла старанна апранутая, даволі прыгожая жанчына гадоў дваццаці пяці. Па тым, як яна ўважліва, з затоеным спалохам глянула на Лену і, быццам спатыкнуўшыся, на імгненне спынілася, а потым паскорыла крок, Лена зразумела, што гэта і ёсць Валя, хоць яна і мала была падобная на тую, якая глядзела з фатаграфіі, што захоўваецца ў разведаддзеле.

Калі жанчына завярнула за вугал, Лена хутка дакранулася да яе рукі.

— Дзіна прасіла, каб вы вярнулі ёй нямецкі слоўнік!

*(Працяг будзе)*

## Старонка з гісторыі гміны Орля

Паводле дадзеных за 1886 год вёскі, якія належаць цяпер да гміны Орля, мелі разам 8.396 дзесяцін зямлі. Панскія маёнткі займалі 5.949 дзесяцін. Тыя 8.396 сялянскіх дзесяцін належалі да 24 вёсак. А 5.949 панскіх дзесяцін да 16 родаў. З тых 16 родаў адзін князь Вітгенштэйн меў 3.862 дзесяціны, гэта крыху менш, чым 1/3 плошчы ўсёй сучаснай Арлянскай гміны. Яго маёнткі былі ў Орлі, Бараноўцах, Рэдутах і Антанове. Сялянская зямля была горшая, назвы ўрочышчаў сведчаць аб гэтым, напрыклад, арлянскія сяляне мелі ўрочышча Заліўкі і Пішчаныя Горкі. Маёнткі Вітгенштэйна распрадаў сялянам яго ўпаўнамочаны Розенблюм у 1897 годзе.

Усёй зямлі ў гміне было 14.345 дзесяцін. З гэтага ліку ворнай — 9.368 дзесяцін, лугоў і пашы — 2.340, лесу — 1 992 і 801 дзесяціна ляжала як няўгоддзі.

**М. Л.**

## Было б усё добра, але...

Жыхары вёскі Іванкі, гміны Нараў, задаволены з развіцця сваёй вёскі. У вёсцы пабудавалі школу, краму, малачарню. Потым увялі доўтачаканае святло. На вуліцы загарэліся лямпачкі. Пачаў ездзіць аўтобус ПКС. За атрыманыя ў конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“ грошы купілі жалезныя стаўбцы. Абгарадзілі ўсе панадворкі і памалявалі. Падумалі таксама аб вуліцы і ў мінулым годзе пралажылі тратуары.

І ўсё было б добра, каб не тое, што лямпачкі на вуліцы перасталі гарэць. Увечары ў вёсцы цёмна і сумна. Гаспадар, які запальвае святло, звяртаўся ў гэтай справе да працаўнікоў энергетычнага прадпрыемства ў Бельску. Атрымаў адказ, што новыя лямпачкі ўстаўляць не будуць, бо трэба ашчаджаць энергію. А людзі, аднак, не могуць прывыкнуць да абсалютнай цемры.

Мне здаецца, што гэтакая ашчаднасць не абгрунтавана, тым больш, што часта бачым, як цэлымі днямі гарацьр непатрэбна ўсюды лямпачкі. У нашай вёсцы павінна гарэць хоць некалькі лямпачак.

**Г. В.**

## Яшчэ раз аб дарозе

Ад шашы Супрасль-Крынкі пайшла дарога да вёскі Азярок-Равок і на ўсю гміну Шудзялава. Гэта рухлівая дарога. Вясной і летам людзі возяць ёю сена з балот Супраслі і Сакалды. А восенню і зімой — дровы з лесу. Але з дарогай гэтай людзі маюць адну вялікую бяду. Калі павярнуць з шашы да Азярка, зараз на пачатку знаходзяцца дзве ямы, цэлы год мокрыя і балоцістыя. Цяжка тут праехаць. Не адзін гаспадар парваў вужы і паламаў аглоблю.

Ужо не раз на сесіях гміннай рады ў Шудзялаве гаварылася, каб направіць гэты малы адрэзак дарогі. Гаварылася аб гэтым і на вясковых сходах, але ўсё, кажуць людзі, як гарох аб сценку. А паправіць дарогу не цяжка, бо на месцы ёсць добры жвір.

Пісала аб гэтай дарозе ўжо „Ніва“ і пішам другі раз. Можа новая гмінная рада ў Шудзялаве пацікавіцца справай больш сур'ёзна.

**Гіль**

## ПРАЦЫ МНОГА

Ужо выбраны новыя гмінныя рады. Трэба будзе ім многа папрацаваць на пачатку пры рэалізацыі заданняў, прынятых на сустрэчах з выбаршчыкамі.

Вось, напрыклад, у вёсцы Альхоўка гміны Нараўка. Паставілі там людзі шмат праблем. Каля школы на вуліцы вечна стаіць вада. Едуць машыны і абліваюць дзяцей і суседнія хаты. Трэба рабіць адплыў вады. На лугах у Баб'яй Гары няма парадку ў меліярацыйных равах. Іх не чысцяць. Моладзь прасіла адкрыць клуб. Дзікі нішчаць палі. Усе гэтыя справы чакаюць вырашэння, і ўлады ўвялі іх у план сваёй працы.

**А. З.**



## Наш лекар

Лекар Эльвіра Морка ўжо пяць гадоў працуе ў вясковым пункце аховы здароўя ў Трасцянцы. Чалавек яна заўсёды ветлівы, ці калі на дарозе сустрэнецца, ці ў лекарскім кабінеце.

Сама жыве ў Беластоку, але выбралася на працу на вёску. Ёй няма ніколі кепскай пагоды, каб прыехаць у пару ў свой кабінет.

Калі я запытаў, чаму яна выбрала працу на вёсцы, яна адказала: „Найперш рашыла ваяваць з хваробамі там, дзе мала лекараў і дзе занядбаная гігіена. Дала сабе слова лячыць добра і сумленна. Таму і выбрала вёску“.

— Ці гігіена паправілася на вёсцы за час вашай працы?

— За пяць гадоў многае змянілася ў Трасцянцы і ў маім раёне. Я стараюся хоць раз у тыдзень наведаць у кожнай вёсцы старэйшых і самотных.

— А што яшчэ трэба зрабіць у Трасцянцы?

— Тут неабходны зубны лекар, непакоіць, што ў школьнай моладзі моцна папсаваны зубы. Кабінет для зубнога лекара ёсць у будынку аховы здароўя, толькі абсталяваць яго трэба і знайсці ахвотнага стаматолага.

Дадаць яшчэ трэба, што таксама неабходны ў Трасцянцы кватэры для працаўнікоў пункту аховы здароўя. Не толькі доктар Э. Морка даязджае сюды, таксама медсястра Марыя Асташэўская прыязджае аж з Тыневіч.

**М. Лук'янюк**

## У Апацы будзе святліца

Апака, што ў Чаромхаўскай гміне, вёска невялікая. І моладзі тут менш, як у іншых вёсках. Аднак усе разам і тут хочуць мець нейкі куточак, дзе б можна было сабрацца ў вольную хвіліну. Калісьці быў у Апацы мастацкі калектыў і ў невялічкім будыначку школы бурліла культурная праца. Але ўсё заціхла. Школу перанеслі ў Палічну.

У мінулым годзе апацкая моладзь звярнулася з просьбай да гмінных улад, каб даўнейшы будынак школы аддаць у карыстанне вёсцы як святліцу. Праблема рашалася некалькі месяцаў і вось ёсць ужо пастанова начальніка гміны: у Апацы будзе святліца. Будынак былой школы, хоць невялікі, а хопіць тут месца і на святліцу, і на вясковую краму (такая была прапанова вясковых улад).

Гміна прызначыла ўжо грошы на аднаўленне будынка. Чакаем, што моладзь і ўсе жыхары вёскі апраўдаюць давер гмінных улад і грамадскім чынам выканаюць невялікі рамонт будынка, а ў далейшым будуць дбаць пра сваю святліцу.

**(ус)**




### КАЛІ БУДЗЕ ЦЯПЛО?

Праўду кажа прымаўка: „Як з яйца, так і да канца“. Гэтая прымаўка пацвярджаецца ў жыллёвым блоку № 87 на вуліцы Бэма ў Беластоку. Ад самага пачатку не было тут ніколі належнага цяпла. Няма і, пэўна, ужо не будзе, кажуць сумна людзі.

Аб гэтым блоку і аб гэтым жа факце мы пісалі ў „Ніве“ № 10 за 7 сакавіка 1976, а ў нумары 14 была падзяка, што стала лепш. Фактычна, у канцы мінулай зімы пачалі мацней грэць у кватэрах. Але не было калі ўжо цешыцца цяплом, бо хутка прыйшла вясна. А ў гэтым годзе зноў холад. У хаце тэмпература 10–15 градусаў.

Аб ашчаднасці цяпла мы ведаем, але чаму толькі ў нашым блоку гэтакія халады? Чаму жыхары іншых дамоў могуць нават доўга ветрыць свае кватэры, а мы ніколі не можам нават нагрэцца?..

**(вл)**




Адзін з нашых перадавых карэспандэнтаў Жэня Аўсенюк выйшла замуж. Усе супольна яе віншуем і жадаем ёй спакойнага і шчаслівага жыцця, ды каб як найхутчэй дачакалася прыбытку ў хаце. Яе цяперашняе прозвішча Яўгенія Мартынюк.

## Гаспадар — гэта спецыяліст

Сельскагаспадарчая служба ў Нараўцы надта добра працуе ў галіне пашырэння асветы сярод сялян. У Нараўцы, Семяноўцы, Масеве, Тарнопалі і Старым Ляўкове вядзецца 6 курсаў на званне кваліфікаванага гаспадара. 180 асоб вучыцца на гэткіх курсах. Заняткі праводзяць мясцовыя аграномы.

У Скупаве арганізаваны курс II ступені — на майстра. Заняткі вядзе Андрэй Кісялеўскі. У Луцэ працуе двухгадовая студыя для тых, хто не закончыў пачатковай школы. Яны адначасова атрымліваюць агульныя веды і па сельскай гаспадарцы. У іншых вёсках праводзіцца масавае навучанне на пачатковым узроўні. 13 гаспадароў атрымала ўжо карты гаспадароў-спецыялістаў. Цяпер рыхтуюцца атрымаць такія ж карты яшчэ 12 гаспадароў.

**А. З.**

## Дзе купіць плоскія злонча?

Яшчэ некалькі гадоў таму назад былі ў продажы вельмі добрыя плоскія злонча тып: 25 380 V (24 А). На жаль, іх, пэўна, вывелі з прадукцыі, а на тое месца робяць ужо круглыя — рознай велічыні. Калі гаспадар хоча, каб электрычны матор круціў машыну ў другі бок, трэба толькі два звычайныя каблікі пераложыць у злончы. Перакладаць часта нязручна, бо адломваюцца каблікі. Каб гэтага пазбегнуць, ёсць толькі адна магчымасць: у плоскім злончы адпілаваць непатрэбны зубік на абудове і можна тады ўтычку абарочваць і ўтыкаць, як захочаш. Найгорш, што плоскіх злончаў ужо нідзе не купіш.

**Я. Н.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „АЛЕ ГАСПАДАРНАСЦЬ!“, „Ніва“ № 43/1130 ад 23 кастрычніка 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W KLESZCZELACH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Ale „gospodarność!” zamieszczoną w tygodniku „Niwa” (nr 43/1130 z dnia 23 października 1977 roku) w sprawie budowy drogi z Grabowca do Toporek, Urząd Gminy w Kleszczelach informuje, że budowa tej drogi nie została zakończona i w bieżącym roku na tej drodze będą naprawione tylko odcinki trudnoprzejezdne.

W roku 1977 w ramach czynu społecznego rozpoczęliśmy budowę drogi ze wsi Dasze do wsi Żuki i zakończenie jej przewiduje się w 1978 roku. Drogą tą będą dowożone dzieci ze wsi Żuki, Pogreby, Gruzka i Piotrowszczyzna do szkoły we wsi Dasze. W dalszej kolejności planujemy budowę drogi ze wsi Gruzka do drogi Kleszczele—Siemiatycze, oraz ulicy we wsi Saki. Inwestycje te są pilniejsze i muszą być realizowane w pierwszej kolejności.

Dopiero po wybudowaniu tych dróg i ulicy przystąpimy do zakończenia budowy drogi ze wsi Toporki do wsi Grabowiec.

Jednocześnie wyjaśniamy, że droga Toporki—Grabowiec z chwilą zlikwidowania powiatu jest mniej uczęszczana i służy przeważnie do dojazdu do pól i punktu skupu w Dubiczach Cerkiewnych. Większość mieszkańców jeździ do Kleszczel drogą żwirową, którą wybudowano w czynie społecznym i przy poparciu finansowym państwa w latach 1974—1976.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Lubomira Wilk**
**Sekretarz Biura**

**Да публікацыі „СВЯТЛІЦА ЗАБІТА ДОШКАМІ“, „Ніва“ № 3/1142 ад 15 студзеня 1978 года.**

**Адказвае: NACZELNIK GMINY W NAREWCE.**

W związku z krytyczną notatką zamieszczoną w 3/1142 numerze tygodnika „Niwa” z dnia 15 stycznia 1978 roku pt. „Świetlica zabita deskami”, uprzejmie informuję:

W latach ubiegłych nie przeprowadzono remontu kapitalnego budynku świetlicy w Siemianówce z uwagi na to, iż nie otrzymaliśmy środków finansowych z Wydziału Kultury i Sztuki Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku. Otrzymaliśmy je dopiero w bieżącym roku.

Budynek świetlicy zamierzamy przesunąć i zlokalizować na sąsiednim placu szkolnym. Będzie on przeznaczony na bibliotekę wraz z czytelnią.

Ponadto w bieżącym roku będzie rozpoczęta budowa remizy strażackiej, której cykl inwestycyjny wyniesie dwa lata. W remizie będzie urządzony klub oraz świetlica o powierzchni użytkowej około 900 m kwadr.

**Naczelnik Gminy**
**Józef Nowicki**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар

# Вясёлае прозвішча

Служыў разам са мной на тэрміновай хлопец з-пад Брэста. Цікавае ў яго прозвішча было — Добрывечар. А начальнік штаба ў нас таксама з-пад гэтага гераічнага горада быў. Толькі характары ў іх былі розныя. Маёр — вельмі гарачы, патрабаваў ад усіх маланкавага выканання загадаў. Сяргей жа — так майго сябра звалі — любіў усё рабіць павольна і акуратна.

І вось аднойчы нёс ён службу днявальнага. Раптам тэлефон звоніць. Сяргей падымае трубку, дакладвае:

— Днявальны па роце Добрывечар!

— Бачу, радавы, што не раніца. Прозвішча ваша? — пытае маёр.

Ужо пачынаючы разумець, што так проста з гэтай гісторыі яму не выйсці, Сяргей зноў кажа:

— Добрывечар, таварыш маёр.

Таго нібы ў ваду ледзяную кінулі:

— Пасля звальнення жартаваць будзеш! Ротнага да мяне!..

Далажыў Сяргей ротнаму. Чакае.

Камандзір нашай роты тым часам да начальніка штаба заходзіць. Дакладвае яму аб прыбыцці.

Маёр незадаволена пытае:

— Што там у цябе за днявальны? Гумару замнога...

Наш капітан, здагадаўшыся, усміхаецца:

— Добрывечар.

— Мы бачыліся. Як прозвішча „героя"? — маёр ужо злуецца.

— Таварыш маёр, разумееце...

— Падначаленага абараняеце? Прозвішча?!

І тут капітан, як ён потым расказваў, знайшоў выйсце.

— Раніца, таварыш маёр, — адказвае.

— Што, што? — перапытаў той і потым, усё зразумеўшы, рассмяяўся.

Праз хвіліну на тумбачцы ў днявальнага зноў зазваніў тэлефон.

— Радавы Добрывечар?

Сяргей пазнаў голас начштаба.

— Так точна, таварыш маёр.

— Хутка здаеце дзяжурства?

— Праз паўгадзіны.

— Добрай ночы вам. Добрай службы.

І ў тэлефоне пачуліся кароткія гудкі.

**Алесь Касцень**



...У яго была цяга да дабра — галоўным чынам да чужога.

# НІЎКА



*З сябрам і бяда напалам.*

### ЧАГО ХОЧА

— Еш, сыночак, кашу.
— Не хачу.
— Дык пі малачко.
— Не хачу.
— Дык хоць штонікі падцягні.
Не хачу!
- А чаго ты хочаш?
- Жаніцца.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Калі госці пайшлі, жонка сказала мужу, што ў іх прапалі дзве лыжкі.

— Якія? — спытаў муж.

— А тыя, на якіх выгравіравана „Атэль Эспланада".

*

На світанні ў кватэры раздаецца званок. Гаспадар адчыняе дзверы і бачыць п'янага маладога чалавека, які трымае пад руку дзяўчыну.

— Мсье, — гаворыць гаспадар кватэры маладому чалавеку, — па-першае, вы абяцалі мне, што прывязеце маю дачку да дзесятай гадзіны вечара, па-другое, гэта не мая дачка.

*

Джонс: — Добры вечар, стары. Я зайшоў за парасонам, які ты пазычыў у мяне ў мінулым тыдні.

Браун: — Шкадую, але я пазычыў яго свайму сябру. Ён табе вельмі патрэбны?

Джонс: — Ды не, але хлопец, у якога я яго ўзяў, гаворыць, што гаспадар яго патрабуе.

### БРАМКА

— Кастусь, хто гэта табе „ліхтар" пад вокам прычапіў? — пытае Парфен.

— Ды гэта Гапцы брамку рабіў і затрымаўся, а жонка дома якраз мак таўкла.

### КІЛА АД ГАРЭЛКІ

— Доктар, скажыце шчыра, няўжо і кіла ў мяне таксама ад гарэлкі? — пытае задрыпанец доктара Знахарука.

— Так. Здаецца, што вы надарваліся, калі ішлі здаваць пустыя бутэлькі.

### МАЛАДЫ

— Дзед, якая сёлета зіма будзе? — спыталі васьмідзесяцігадовага задрыпанца.

- А хто яго ведае, — адказаў няспешна дзядуля, — гэта трэба старых людзей спытаць.

### СЭКАНОМІЎ

Сабраўся задрыпанец з дачуркаю ў госці ды й навучае яе:

— Глядзі ж, Насцейка, калі цёця спытае ў вагоне, колькі табе год, то скажы, што пяць.

— Але ж мне ўжо шэсць мінула, — запярэчыла Насцейка.

— Гэта дома табе шэсць, а ў поездзе няхай будзе пяць. Гэта дзеля таго, каб на цябе білета дзіцячага не браць, каб сэканоміць грошы.

Селі яны ды й едуць. Дзяўчынка гуляе па вагону, а рэвізор праходзіць ды й пытае:

— Ой, якая ж ты харошанькая дзяўчынка, а як жа цябе завуць?

— Насцейка, — адказала тая.

— А колькі ж табе годзікаў?

— Казаў тата, калі гэта дома, то шэсць, а калі едзем у вагоне, то пяць.

І задаволена адказам, пабегла да бацькі.

Давялося бацьку не толькі перад пасажырамі чырванець, але й за дзіцячы білет заплаціць.

### АСЦЯРОЖНЫ

— Ці ведаеце вы, — строга гаворыць начальнік лянівому служачаму, — што ад работы яшчэ ніхто не паміраў?

— Ведаю, — адказвае служачы, — але навошта рызыкаваць? Я не хачу быць першай ахвярай.



*Ляльканазнаўца на рыбалцы.*

## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

### БУРБАЛКА

Бурбалка! Бурбалка! Бычцам
жывая —
Злёгку ў саломку падзьмі — вырастае,
Яркай вясёлкаю пераліваецца,
Кружыцца, пнецца, не адрываецца.
Кружыцца з ёй на танюсенькай
плёнцы
Сіняе неба, сіняе сонца,
Сінія хаты, сінія дрэвы —
Злева направа, справа налева...
Раптам сарвалася і — на калена...
Мокрае месца, мокрая пена.
Лопнула дзіва — войкнулі дзеці...
Бурбалкі!
Колькі ж яшчэ іх на свеце?

**Алесь Бачыла**



*Усміхніцеся больш натуральна!..*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Янкі, Надзі і Якуба Нікіцюкоў са Ступнік, Веські Мартынюка, Леана Апалінскага і Грэны Раманюк з Пайлаў, а таксама Галены Якалюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## Droga, którą idę

**Słowa: Janusz Kondratowicz**
**Muzyka: Seweryn Krajewski**

Droga, którą idę,
jest jak pierwszy własny wiersz,
uczę się dopiero
widzieć świat, jaki jest,
uczę się dopiero
świata, jaki jest.
Droga, którą idę,
biegnie śladem ludzkich spraw
szukam swego czasu,
jasnych słów, prostych prawd,
szukam swego czasu,
jasnych słów i prawd.
Już tyle słońc
wzeszło tylko jeden raz,
już z tylu stron
zapłonęły ognie gwiazd,
już tyle miejsc
zapomnienia pokrył kurz,
wiem, co to jest,
lecz się nie zatrzymam już
Droga, którą idę,
czasem błądzi w pełni dnia,
kocham, pragnę, tracę,
chwytam dzień, póki trwa,
kocham, pragnę, tracę,
chwytam dzień, gdy trwa.
Już tyle słońc...
Droga, którą idę,
nie wybiera łatwych lat,
w czasie, który minie
odbić chcę własny ślad,
w czasie, który minie
odbić chcę twój ślad.




### АПОШНЯЕ ПЫТАННЕ

— Няўжо рускія снайперы так трапна страляюць? — спытаў фашысцкі обер-лейтэнант, які ўпершыню трапіў на фронт, і тут жа высунуў галаву з траншэі.

Нябожчык больш нічога не пытаўся.

## Курёзы

### САМ ВІНАВАТЫ...

Выпадак, шчыра скажам, парадаксальны. Інгмары Бергман — артыст з сусветным імем. Ён зрабіў нямала і „сенсацыйных" фільмаў, якія прапагандуюць вольную мараль і лічацца шэдэўрамі ў сваім родзе. Сярод іх не апошняе месца належыць фільмам у чыста галівудскім стылі, з удзелам жанчын, дзе яны скараюць сэрцы мужчынскай паловы гледачоў сваёй, мякка кажучы, адкрытай прыгажосцю. Відаць, гэтая тэма займала нямала часу ў рэжысёрскай сям'і, бо невыпадкова дачка Бергмана, дасягнуўшы васемнаццацігадовага ўзросту, пакінула родны дом і, выехаўшы ў Англію для самастойнага жыцця, распачала кар'еру, накшталт кар'еры гераінь з фільмаў бацькі. Спачатку яна была манекеншчыцай, потым фотамадэлісткай, здымалася, у чым маці нарадзіла, а неўзабаве ёй прапанавалі і адпаведныя ролі ў кіно.

Тым не менш, Інгмары Бергману гэта чамусьці надта не спадабалася. Лічачы жаночую прыгажосць добрай крыніцай даходу ў сваёй рэжысёрскай практыцы, ён не хаваў прыкрасці, што ўласная дачка таксама ж вырашыла зарабіць сабе грошы і славу ў адпаведнасці з яго густам. Не выказваючы ўслых свайго незадавальнення дачкой, каб не выставіць сябе смешным перад людзьмі, рэжысёр параў ёй усялякія сувязі.

Як кажуць, што пасееш, тое і пажнеш!




**Смейся над жартам да тых пор, пакуль не зразумееш яго сэнсу.**